# Аб Бэрлінскай трагікамэдыі

**(Ад нашага карэспандэнта з Бэрліну)**

Чаму Бэрлін? Гэтае пытаньне займала ўсіх як падчас падрыхтоўкі да г.зв. «Сусьветных Гульняў Моладзі», так і ў працягу іх. У мінулым годзе зьезд камуністычнай моладзі, ці дакладней зьезд моладзі, сагнанае камуністымі, што адбываўся на сёмуху ў Бэрліне, закончыўся для камуністых поўнай няўдачай. Праектаваны тады паход на заходні Бэрлін гэтак і астаўся нявыкананай пагрозай. Праўда, тысячы нямецкае моладзі з Усходу былі тады ў заходнім Бэрліне, але не ў замкнутых калёнах з камуністычнымі клічамі, як хацелі камуністычныя праваднікі, — яны прахаджваліся спакойна паасобку ці ў групах, прыглядаючыся й пазнаючы хоць маленькую частку забароненага ім сьвету.

Непараўнальна большым па разьмеры, і кансэквэнтна, непараўнальна большай няўдачай былі сёлетнія «Гульні». Камуністыя, праўда, могуць пахваліцца адным: — па колькасьці ўдзельнікаў гэтыя «Гульні» былі бадай што адзінымі ў гісторыі. Хоць «выканаць і перавыканаць» свайго пляну — сабраць 2 мільёны моладзі — арганізатарам не ўдалося, аднак усё-ж такі каля паўтара мільёна моладзі прыехала ў Бэрлін. У васнаўной масе гэта былі немцы, але прысутнічалі й шматсоценныя дэлегацыі ад СССР, усіх сатэлітных гаспадарстваў, ды гэтаксама камуністычныя дэлегацыі моладзі заходніх, навет заакіянскіх гаспадарстваў. Далёка ня ўсе ўдзельнікі былі камуністымі. Найлепш гэта задэманстравалі немцы шляхам шматлікага наведваньня заходняга Бэрліна (звыш мільёна ў працягу «Гульняў»), ня гледзячы на забарону. Арганізатары зрабілі ўсё, каб не дапусьціць да гэтага, пачынаючы ад прапаганды, якая прадстаўляла заходні Бэрлін ледзь не абтокам людаедаў, ды канчаючы на барыкадаваньні ўсіх вуліцаў на мяжы сэктару.

Цікавы, ды які-ж сымбалічны абраз можна было пабачыць у першыя дні «Гульняў»: Пад'яжджаючы да мяжы сэктару, вы мінаеце вялікую дошку з надпісам: «Вы пакідаеце ангельскі сэктар Бэрліну». За некалькіх дзесяткаў мэтраў падобная дошка, але з куды больш надзьмутым надпісам: «Тут пачынаецца дэмакратычны сэктар Бэрліну». І вось, яшчэ за пару мэтраў, поўны абраз «дэмакрацыі»: загароджаныя вуліцы, а на той бок сотні або й тысячы моладзі, сьціснутае каля загароды, каб хоць вокам кінуць «на той бок», дзе няма барыкадаў, дзе людзі вольна ходзяць ад сэктару да сэктару. Так, ня цяжка было пазнаць «дэмакратычны» сэктар...

Але барыкады мала памагалі — за некалькі дзён вуліцы заходняга Бэрліну сьвяціліся ад сініх кашуляў удзельнікаў «Гульняў». І камуністыя, прызнаючыся пераможанымі, мусілі зьнесьці неэфэктыўныя, ці можа навет дзеючыя з адваротным эфэктам, барыкады.

На гэтым баку ўдзельнікаў прыймалі з адчыненым сэрцам: вулічны й падземны транспарт быў для іх бясплатным. Усе дамы моладзі заходняга Бэрліна былі адчыненыя для гасьцей з Усходу. Там яны ў кажную пару маглі атрымаць ежу, адпачыць, пачытаць ці ўзяць з сабой газэты ці літаратуру. І усё гэта задарма. Гэтаксама шматлікія кіно й тэатры былі адчыненыя для ўдзельнікаў. Апрача гэтага, Радыё Вольная Эўропа, пры дапамозе дэлегацыяў ад 14-ці нацыяў, у тым ліку й беларусаў, наладзіла выстаўку, якая працавала на працягу «Гульняў».

У першай залі наведвальніку кідалася ў вочы сьцяна, запоўненая надпісамі ў 16-ці мовах. Гэта былі словы Вольтэра, насамперш у беларускім перакладзе: **«Я не згаджаюся з вашым паглядам, але буду бараніць да апошняга вашае права яго высказваць».** На супрацьлеглай сьцяне — вялікая карта, дзе плястычна была паказаная сучасная савецкая імпэрыя за зялезнай заслонай. Рад іншых пакояў быў прадстаўлены для розных нацыянальнасьцяў, дзе можна было пабачыць абразкі з народнага жыцьця дадзенае нацыі, знайсьці прэсу й літаратуру ў розных мовах. Апрача гэтага сьцены былі пазавешваны схэмамі ды паясьненьнямі ў шматлікіх мовах аб працы розных арганізацыяў моладзі ў вольным заходнім сьвеце.

Выстаўка, як і наагул усе іншыя месцы, адчыненыя для ўдзельнікаў «Гульняў», ня пуставала ніколі, хоць гэтыя забароненыя экскурсыі ў заходні Бэрлін былі часта не малым рызыкам для наведвальнікаў.

У вадзін зь першых дзён «Гульняў» у падземнай чыгунцы зьвярнула нашу ўвагу групка моладзі, зь якое адзін меў падбітае вока. Пазнаць, было ня цяжка, што яны «адтуль» — аб гэтым гаварыла вопратка, няпэўныя паводзіны, недаверлівыя позіркі вакол. Мы пачалі гутарку. Юнак з падбітым вокам — найстарэйшы з групы — аказаўся студэнтам зь Ены, вельмі сымпатычным хлапцом.

— Дзе-ж гэта Вам так удалося? — паказваючы на падбітае вока, запыталіся мы ў яго.

— Фопо, — быў кароткі адказ. Фопо — скарот ад «Фольксполіцай» (Народная Паліцыя) — добра ведамае кажнаму немцу з савецкае зоны. Гэта ўжо не паліцыя, а ўзброеная да зубоў невялікая армія, створаная бальшавікамі ў Усходняй Нямеччыне.

Малады студэнт расказаў, як вяртаючыся папярэднім вечарам з заходняга сэктара, ён быў злоўлены двума Фопо. Яму ўдалося вырвацца, але знак ад прыкладу пісталета аднаго з Фопо застаўся на памяць пад вокам. Аднак гэта не памагло — сяньня зьявіўся ён яшчэ раз зь пяцьма маладымі сябрамі, каб паказаць ім заходні Бэрлін ды жыцьцё ў ім.

— Што было-б, каб яны Вас затрымалі?

— Адразу згубіў-бы права ўдзельніка «Гульняў». Дахаты мусіў-бы прабірацца на свой кошт. А галоўнае, гэта было-б для мяне роўназначным з атрыманьнем «воўчага білету» ў унівэрсытэт...

Бязумоўна, ня кажнаму адведзіны заходняга Бэрліну абыйшліся так танна, як нашаму знаёмаму. Напэўна не адзін паехаў да хаты з «воўчым білетам».

Адна знаёмая карэспандэнтка з «Ройтэр», якая падчас «Гульняў» наведвала штодзённа розныя выступы ў Усходнім Бэрліне, расказвала мне аб сваіх уражаньнях. Выступы, як такія, яе ня вельмі цікавілі. Яна падышла да аднаго маладога чужніка, хочучы паставіць яму некалькі пытаньняў адносна «Гульняў», умоваў жыцьця на ягонай бацькаўшчыне. Не пасьпела яна адчыніць роту, як перад ёю стала двух мужчынаў. Суха выбачыўшыся, яны сказалі, што гаварыць зь сябрамі дэлегацыяў падчас выступу забаронена.

— Добра, я пачакаю — адказала карэспандэнтка. Пасьля заканчэньня выступу, калі яна ўзноў папрабавала навязаць гутарку з маладым удзельнікам, зноў-жа нязьменныя дзьве асобы вырасьлі перад ёю. Хлапец, зь якім яна хацела гутарыць, ня мае часу — выясьнілі яны ёй. Калі-б яна хацела пагутарыць зь некаторымі ўдзельнікамі, яны гатовы ўладзіць сустрэчу прыблізна за тыдзень.

— Дзякую, — адказала карэспандэнтка. — Я хацела пачуць **ягоную** думку адносна некаторых справаў. Слухацьжа за тыдзень **вашу** думку зь ягоных вуснаў ці ягоных сяброў, мне ня цікава...

Цікавую гутарку меў я з адным французам, сябрам францускае дэлегацыі. Камуністым ён ня быў; прыехаў — паводля ягоных слоў — «вырабіць сваю думку аб «Гульнях» ды наагул аб камуністых». Да гэтага, ён зьяўляецца карэспандэнтам аднае марсэльскае газэты.

— Першыя дні я быў захоплены прыймом, які рабілі мне іншыя, а асабліва савецкая дэлегацыя. Мяне кармілі, паілі, займалі гутаркамі. Адно толькі было цяжка — астацца адзін на адзін зь кім-небудзь. Аднак раз гэта здарылася — я й адзін студэнт з савецкае дэлегацыі асталіся нейкім чынам самі ў пакоі. Выкарыстоўваючы акалічнасьць, што ніхто нам не перашкаджае, я паставіў яму некалькі пытаньняў аб жыцьці ў СССР. Ён мне запрапанаваў расказаць яму насамперш аб Францыі. Я пастараўся коратка ды як найбольш аб'ектыўна расказаць аб жыцьці работніка, студэнта, інтэлігента ў Францыі. Мінусаў не хаваў, але й не перабольшываў, як мае камуністычныя сябры.

— Я бачу, што Вы запраўды шчыры й аб'ектыўна расказваеце мне аб усім. Калі буду мець нагоду, пастараюся такжа аб'ектыўна расказаць Вам аб СССР...

— Нажаль, у гэты мамэнт нам гутарку перарвалі. Вось ужо трэйці дзень, як я стараюся зноў злавіць яго, але мне ўсё адказваюць і што раз больш сьцюдзёна, што ён заняты.

Я яму парадзіў не турбавацца надарэмна — свайго знаёмага, які хацеў быць шчырым, яму напэўна ня ўдасца пабачыць.

Гэтых трох дзён хапіла, каб наш француз поўнасьцю атросься з камуністычнае гіпнозы. Ён пабачыў камуністычную «роўнасьць»: усе ўдзельнікі былі падзеленыя на тры касты — дэлегацыі з заходніх краінаў, сатэліты й СССР, і — немцы. З прапагандовых мэтаў першая мелася найлепей — лепшых памешканьняў і ежы (навет па літры віна што дзень) і жадаць ня можна было. Другая мелася таксама нядрэнна, а немцы былі рады, калі ў гаражох, куды пазаганялі іх на начлег, была салома... Зь ежай было ня лепш.

Ня было таксама вольнага кантакту між паасобнымі дзяржаўнымі групамі. Большасьць удзельнікаў, апрача інсцэнізаваных радасных сустрэчаў на станцыі, больш сябе ня бачылі.

Цікавы яшчэ адзін факт: як выявілася з гутарак зь сябрамі паасобных дэлегацыяў, усюды выбар і падрыхтоўка будучых дэлегатаў (якая трывала месяцамі) праводзілася дакладна паводля аднолькавага пляну. Як мы пасьля даведаліся, ён быў распрацаваны адумысловай камісыяй камінформу.

Нас, ясна, цікавіла найбольш беларуская група. Мы хутка даведаліся, што хоць сюды ехалі паасобныя рэспубліканскія артыстычныя ці спартовыя групы, тут у Бэрліне яны былі ўсе перамешаныя, тады падзеленыя па 10, і гэтак паразьмешчаныя на кватэры. У кажнай дзесятцы былі па два праваднікі, бяз усякага сумліву агенты МВД. Хітрэй ня можна было й прыдумаць: сусед суседа ня ведаў і баяўся. У гэткіх умовах падумаць аб уцёках ці хоць-бы наведаньні заходняга Бэрліна было ня лёгка.

Але й гэтыя меры не апраўдалі мэты камуністычных арганізатараў — поўнасьцю ад'ізаляваць нацыянальныя дэлегацыі СССР ад сваіх суродзічаў на Захадзе. Пэўнымі шляхамі была перададзеная адпаведная літаратура, а апрача гэтага раськідалася вялізарная колькасьць улётак, у тым ліку й заклік да беларускай моладзі ад ейных братоў на выгнаньні. Улёткі былі параськіданыя ў такой колькасьці ды ў такіх месцах, што яны бяссумліўна папалі не аднаму дэлегату. Не адзін зь іх раскажа аб гэтым на бацькаўшчыне.

20-га жнівеня скончыліся «Сусьветныя Гульні Моладзі» ў Бэрліне. Яны каштавалі вялізарныя сумы крэмлёўскім арганізатарам. Праўда, бальшавікі ніколі ня лічыліся з грашыма, калі йшло аб прапаганду. Але ці з гэтага гледзішча апраўдалі сябе гэтыя «Гульні»? Так, але не на карысьць арганізатараў.

Адно цяпер пэўна: калі бальшавікі захочаць узноў задзівіць сьвет падобнымі «Гульнямі» ці якой міжнароднай сустрэчай, яны напэўна ня выбяруць больш Бэрліну.

**І. С.**

# Цану яму знаем

## да выступленьня Керэнскага у Фэльдафінгу

Вестка аб прыезьдзе 1-га верасьня сёлета ў лягер некаранаванага экс-імпэратара й самадзержца Расеі — Керэнскага сабрала грамадкі дэпіўцаў каля бараку ІМКА ў Фэльдафінгу. Вяліся гутаркі аб дзейнасьці Керэнскага ў 1917 г. — і паважныя й жартаўлівыя, пры гэтым ужываліся сакавітыя эпітэты, а часамі й нецэнзурныя словы.

Але вось і машына пад'ехала, гутаркі сьціхлі й дэпіўцы ўсьлед за «высокім госьцем» зайшлі ў невялікую залю. Керэнскі прывітаў прысутных, сказаў, што ён заўсёды памятаў аб расейскім і іншых народах, стараўся ім памагаць, але Захад і Амэрыка былі глухія на ягоныя заклікі. Пасьля залажыў старую, іржавую й тупую голку й заграў на старой плітцы, на якой, да рэчы сказаць, іграюць усе бяз выключэньня палітычныя расейскія партыі: «Спачатку ўсе разам зьнішчым бальшавізм, а тады ўжо галасаваньне, аўтаномія, фэдэрацыя» й г. п. Плітка йграе. Прыглядаемся да музыканта й проста ня хочацца верыць, што вось гэты іменна нехлямажы, зь вялікімі акулярамі на вялікім носе чалавек быў якраз прычынаю найвялікшага ў гісторыі чалавецтва няшчасьця для расейскага, а асабліва паняволеных Расеяю народаў, зь якіх некаторыя ўжо ня існуюць. А ён вось тут, аплыўшы жырам, іграе сярод недабіткаў на тэй самай плітцы й жэстыкулюе ўсё да сябе ў такт мэлёдыі. Усплываюць у памяці мільёны ахвяраў, канцэнтрацыйныя лягеры, нябывалыя зьдзекі над істотаю чалавека, — і ўсё гэта дзякуючы вось гэтаму чалавеку ў акулярах на вялікім носе. Жахліва!

Плітка сыграная. Якія пытаньні?

Пытаньні былі паважныя. Але музыкант спраўным рухам рукі перавярнуў на другі бок плітку і зайграў: «Пра Усебеларускі Кангрэс у Менску ў 1917 г. ён нічога ня ведае, казаў у Кіяве, што Украіны ня было й ня будзе, бо за шмат вымагалася, трэба было галасаваць, ізноў галасаваць, ізноў фэдэрацыя» й г. д.

Аб паважных выступленьнях не магло быць і мовы — па першае, ня было перад кім, а па другое — з гледзішча на моцна ўсхваляваную моладзь на залі. А ўсё-ж, прыперты пытаньнямі й ня маючы, а можа баючыся даць адказы на іх, Керэнскі заапэляваў да расейцаў, каб яны забралі слова. Аднак ніхто з расейцаў слова не забраў, ня было выхаду, і некаранаваны экс-імпэратар змушаны быў зачыніць сход.

Фарс скончаны, але паўсталі сумныя рэфлексыі.

Проста незразумелым ёсьць, каб у гэты час, калі ўсякімі спосабамі й пры затраце аграмадных сродкаў мантуецца адзіны фронт супраць страшэннае бальшавіцкае заразы, якая пагражае заліць увесь свабодны сьвет, нейкая таямнічая рука пацягнула за нітачку й выплыў на паверхню чалавек — стапрацантовы палітычны банкрот, які быў першапрычынаю ўсяго таго, супраць чаго сяньня арганізуюцца ўсе волялюбныя народы. Дык вось ня хто іншы, а гэты чалавек мае зарганізаваць адзіны фронт «Народаў Расеі» і пад сьцягам тых самых лёзунгаў тырмы народаў павесьці іх вызваляць сваіх братоў з пад бальшавіцкага ярма, каб узлажыць на іх новае ярмо із старым зьместам, а новым назовам. Нешта страшнае! І далей. Ужо на парозе сваей дзейнасьці адразу паглыбіў антаганізм і афіцыйна стварыў новы варожы фронт паміж паняволенымі Расеяю народамі з аднаго боку і расейцамі — з другога.

Брава, сп. Керэнскі! У 1917 г. Вам у думках моцна сьціснуў руку тав. Ленін за датэрміновае правядзеньне першае фазы — ад сацыялізму да камунізму, будзьце пэўныя тады, што за распачацьце другое фазы шчыра падзякуе Вам і «бацька».

**Бом**

дыктатара на імглістым бальшавіцкім небасьхіле яшчэ ня вырысоўвалася. Сталіну патрэбна было адсунуць ад улады й зьнішчыць моцных канкурэнтаў, якімі былі ў палітбюро Троцкі, Зіноўеў, Бухарын. А шырокія масы наагул тады яшчэ ня чулі пра Сталіна.

Пры такіх палітычных абставінах перад Масквою было пастаўлена беларусамі пытаньне аб неадкладным прылучэньні Гомельшчыны да БССР. К гэтаму-ж часу Усеваладам Ігнатоўскім — тагачасным Наркомам Асьветы Беларусі ў Гомельшчыне й навет Браншчыне была праведзеная вельмі важная папераджальная акцыя. Згодна ўказаньняў Ігнатоўскага у Гомельшчыну выехала некалькі энтузыястых настаўнікаў для арганізацыі школаў з выкладаньнем у беларускай мове. Такія школы ўдалося зарганізаваць у Брагінскім, Рэчыцкім, Хойніцкім, Уваравіцкім і іншых раёнах. Трэба адзначыць, што сельскае насельніцтва, русыфікаванае дагэтуль, ахвотна згаджалася на выкладаньне ў школах у роднай беларускай мове. Такім чынам к часу канкрэтнага ажыцьцяўленьня кампаніі аб далучэньні да Беларусі Гомельшчыны там ужо існавала значная колькасьць беларускіх школаў, а пры губэрнскім аддзеле асьветы працавалі два інспэктары дзеля арганізацыі й інструктажу гэтых школаў.

Аднак у Менску прадбачвалася, што прылучэньне Гомельшчыны ня пройдзе лёгка й гладка. Сур'ёзнымі праціўнікамі прылучэньня былі губэрнскія савецкія тузы. Усе ключавыя пасады ў Гомельскай губэрні былі абсаджаны выключна расейцамі й часткова жыдамі. Калі яны пабачылі, што пытаньне аб адарваньні Гомельшчыны пастаўлена беларусамі сур'ёзна, абгрунтавана й набірае неспадзяваных тэмпаў, праціўнікі прылучэньня выступілі адзіным фронтам. Расейцы знайшлі прыхільнае падтрыманьне таксама і ў паветах. Сельсаветы, праўда, былі абсаджаныя ў бальшыні сваей беларусамі, але яны былі толькі выканальнікамі й ніякай рэальнай сілы ня мелі. На іх ня зьвернутая была й увага. Тут яны й часткова пралічыліся. Ад губэрнскіх уладароў пасыпаліся ў Маскву пэтыцыі й дакладныя запіскі з доказамі, што ў Гомельшчыне няма ніякіх беларусаў, насельніцтва — гэта чыстыя расейцы, і што ўжываецца сярод яго толькі расейская мова. Навет былі арганізаваныя хвальшывыя дэлегацыі ў Маскву з дамаганьнем пакінуць Гомельскую губэрню ў складзе расейскай фэдэрацыі.

Не спадабалася ажыўленая акцыя беларусаў у Менску й усерасейскаму «старасьце» Калініну. Не прыкрываючыся ніякімі рэчовымі довадамі й аргумэнтамі, Калінін катэгарычна выступіў супраць адарваньня Гомельшчыны ад расейскай фэдэрацыі. З голасам Калініна трэба было паважна лічыцца, бо ўсё-ж-такі ён быў, апрача «ўсерасейскага старасты», і сябрам палітбюро. У Калініна загаварыла спрадвечная расейская імпэрыялістычная тэндэнцыя. Няважна што губэрня пераходзіла ў склад другой савецкай рэспублікі, але важным для расейца Калініна было тое, што яна выходзіла із складу Расеі. Таму неабходна было прыняць усе меры, каб не дапусьціць да гэтага. Стварыўся адзіны фронт праціўнікаў: губэрнскія й павятовыя савецкія ўлады, а ў Маскве Калінін з кіруючымі лідэрамі Расейскай Савецкай Фэдэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Ня трэба забывацца, што ў тыя гады быў самы развой новай эканамічнай палітыкі, якая прынесла значны пад'ём стану жыцьця пасьля хаосу, голаду, разрухаў часоў грамадзянскай вайны. Расейцы ўлічвалі, што із стратаю Гомельшчыны расейская фэдэрацыя траціць вельмі важную сыр'явую й прамысловую базу, важны чыгуначны вузел і ладны водны шлях Сож-Дняпро. Выпадала важнейшая прыбытковая крыніца з расейскага бюджэту. Адначасна Гомельшчына ўзмацняла-б эканамічнае палажэньне Беларусі й ліквідавала-б у значнай ступені ейную фінансавую залежнасьць ад Масквы, чаго апошняя не хацела. Гомельшчына была такім чынам смачным кускам для расейцаў.

Усё гэта былі вельмі важныя прычыны ў умовах жыцьця пэрыяду нэпу. Абставіны складаліся так, што справа прылучэньня Гомельшчыны магла быць пахаваная ў архівах. Крэмлю трэба было знайсьці нейкі фармальны выхад, каб правяліць гэтае пытаньне. І выхад быў знайдзены. Пастаноўлена было правесьці сваяасаблівы «плебісцыт». Мэтаю такога плебісцыту было паказаць неспакойным беларусам у Менску, што насельніцтва Гомельшчыны ў сваім жыцьці карыстаецца толькі расейскай мовай, а таму заселеная яна выключна расейцамі й павінна астацца ў складзе расейскае фэдэрацыі. Такім чынам і Калінін быў-бы задаволены й прынцыпы нацыянальнае палітыкі былі-б захаваныя.

Для правядзеньня гэтае «мудрае» пастановы была ўтвораная спэцыяльная камісыя. Старшынёю камісыі быў прызначаны камендант Крамля — латыш Пэтэрсон. Плебісцытная камісыя павінна была выехаць у сёлы й мястэчкі Гомельшчыны, правесьці гутаркі з насельніцтвам і ўстанавіць, якою моваю на мясцох жыхары карыстаюцца. Гутаркі павінны былі быць стэнаграфаваныя. Разьлічана было на тое, што латыш Пэтэрсон беларускай мовы ня ведае, стэнаграфістка таксама маскоўка, ды й самі сяляне й работнікі, ня ведаючы прычынаў гутарак зь імі, будуць старацца гаварыць з маскоўскай камісыяй парасейску. Расейцамі ўлічвалася, што ня кажны селянін і работнік адважыцца гаварыць з камісыяй, а выступаць будуюць толькі сьмелыя й бывалыя (вайскоўцы, служачыя й іншы больш зрусыфікаваны элемэнт).

Аднак у запраўднасьці выйшла зусім ня так, як плянавалася. Беларуская Гомельшчына здала цяжкі эгзамен з высокай пахвалай. Ня гледзячы на векавое абрусеньне, нячэсныя мэтады выяўленьня нацыянальнай прыналежнасьці насельніцтва, плебісцыт паказаў Маскве, што ў Гомельшчыне ня ўмерла родная беларуская мова, што яна жыве і зь ёю жыве народ беларускі, што беларусы Гомельшчыны любяць сваю мову, шануюць і карыстаюцца ёю, ня гледзячы ні на якія маскоўскія камісыі.

За правядзеньнем «плебісцыту» пільна сачыў М. Паўлюкевіч, які быў сябрам камісыі ад беларусаў. Будучы актыўным нацыяналістым і цьвёрда выконваючы дырэктывы Беларускага Нацыянальнага Цэнтру, Паўлюкевіч прыклаў усе стараньні, каб вынікі плебісцыту ня былі змазаныя расейцамі. Былы выхаванец Віленскага настаўніцкага інстытуту, высока асьвечаны, цалком адданы нацыянальнай справе, Паўлюкевіч з гонарам выканаў свой абавязак перад бацькаўшчынай. Ён ня ўпусьціў ніякіх дробязяў, каб камісыя поўнасьцю пераканалася аб прыналежнасьці насельніцтва Гомельшчыны да беларускай нацыі. Потым ужо праз дзесяць гадоў НКВД не даравала Паўлюкевічу ягонай актыўнай працы на карысьць бацькаўшчыны: у 1937 г. — у часы жудаснае яжоўшчыны — палкі патрыёта Паўлюкевіч, страціўшы ўзрок і хворы, закатаваны быў у падвалах Лубянкі.

Крэмль прымушаны быў прызнаць, што беларуская Гомельшчына павінна быць выдзеленая з расейскае фэдэрацыі й прылучаная да Беларусі. Аднак пры канчатковым разьмежаваньні тэрыторыі не абыйшлося бяз круцельства. Расейцам ніяк не хацелася расстацца з усходняй прамысловай часткай Гомельшчыны. Яны ніяк не хацелі ўступіць гораду Дабружа зь яго папяровай хвабрыкай, высокія гатункі паперы якой былі ведамыя за межамі Расеі яшчэ ў царскія часы. Але Добруж знаходзіўся ад Гомеля менш чымсьці 20 клм., таму, як не хацелася аддаваць гэтую галіну прамысловасьці, усё-ж такі прыйшлося адступіць і ўключыць Добруж у склад БССР. На вялікі жаль Старадуб і Навазыбкаў з мануфактурнай хвабрыкай і двумя запалкавымі не ўдалося прылучыць, і гэтыя беларускія тэрыторыі асталіся паза межамі Беларусі.

Мы цьвёрда верым і пераканыя ў тым, што прыйдзе час, калі беларусы ня толькі Навазыбкава й Старадуба, Веліжа й Себежа увойдуць у склад вольнае незалежнае Беларусы, але таксама й іншыя беларускія тэрыторыі ўключна із Смаленшчынай станучца інтэгральнай часткай нашае бацькаўшчыны.

**С. Горвальскі**

